# БЮЛЕТЭНЬ

## Соймавага Клюбу „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“

№ 11 | Вільня, Пятніца 14 трауня 1926 году. | № 11


## Інтэрпэляцыя № 47

**дэпутата Мятлы з Беларукай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра справядлівасьці ў справе катаваньня беларусіх дзяцей вучыцелем пачатковай школы ў в. Гічыцы Косаўскага пав.**

Палітыка Ураду, імкнучаяся да тармажэньня беларускай асьветы і дэнацыяналізацыі беларусаў прымусова накідаючы ім польскія школы і польскае вучыцелядства, дае як найгоршыя рэзультаты. З аднаго боку вучэньне ў незразумелай для дзяцей польскай мове тармозіць і абніжае роўню асьветы, а з другога боку знеахвочвае люднасьць і дзяцей да школы, якая перароблена ў аружжа нацыянальнай барацьбы з беларускай людкасьцяй. Вучыцялі-палякі, якіх урад перасяляе ў Заходнюю Беларусь на места выкідваных усялякімі спосабамі беларускіх пэдагагічных сіл, — вельмі далёкі ад належнага зразуменьня свайго назначэньня, пазбаўлены адпаведнай кваліфікацыі або пэдагагічнай здольнасьці,—элемэнт, якому школьная ўлада не ўважаець за магчымае даверыць пэдагогічнае месца на землях Каранной Польшчы. Людзей гэтых пускаюць на гэтак званыя „Крэсы“, бо на „Крэсах” вучыцельства мае задачай не пашыраць, але нішчыць асьвету.

I вось якія сцэны разыгрываюцца пры гэтакіх адносінах у беларускіх школах: з в. Гічыцы, Борка—Гічыцкай гм., Косаўскага пав. паведамляюць нас аб паняверцы і катаваньні школьных дзяцей вучыцелем паляком, Якубам Пёнткам. Жыхары гэтай вёскі пішуць нам пісьма, у якіх дамагаюцца назначэньня ім вучыцеля беларуса, які-б разумеў, любіў і вучыў іх дзяцей. Але замест гэтага прыслалі ім п. Якуба Пёнтка — галіцыяніна паляка, які стасуе да беларускіх дзяцей кій і дpaкaнcкія дысцыплінарныя кары, як галоўную пэдагагічную помач. Стэрарызаваным сваім выхаванкам забараняе скардзіцца на свае „педагагічныя мэтады“ пад пагрозай павялічэньня кары.

У самаволі і зьдзічэньні дайшоў гэты „шырыцель асьветы“ да тае ступені, што апошнім разам проста скатаваў вучняў малодшае клясы ў веку 8—10 гадоў,— дзяцей гаспадароў памянутай вёскі Аляксея Міхінкевіча, А. Саяўцы і Цімашэвіча. Правіненьне: дзеці пілі воду проста з калодзеша; — кара: кіём у 4 санціметры ў папярэчніку біў іх „вучыцель“ да тае ступені, што ўсё цела была пакрыта сінякамі і апухла. Сын Аляксея Міхінкевіча праляжаў два тыдні ў рэзультаце гэтых „пэдагагічных метадаў“, бо ня мог хадзіць з прычыны апухненьня ног.

Ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці склонны ён загадаць ураз-жа жорсткае сьледзтва ў гэтай справе?

2) Ці склонны выдаць адпаведны загад, каб звольнілі са службы і пацягнулі да адказнасьці вучыцеля Якуба Пёнтка, віноўнага ў катаваньні і паняверцы над беларускімі дзяцьмі?

3) Ці маніцца скасаваць распараджэньні, наказуючыя адпаведным школьным уладам у Заходняй Беларусі за ўсялякую цану выкідаць вучыцялёў-беларусаў і заступаць іх неадпаведнымі і варажымі мясцовай люднасьці вучыцялямі-палякамі?

Варшава 30. III. 1926 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя №. 49

дэпутата Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да паноў Міністраў Унутраных спраў і Справядлівасьці **ў справе беспадстаўнага арыштаваньня і пратрыманьня ў працягу адзінаццацёх месяцаў пад сьледзтвам у Беластоцкім вастрозе Вольгі Габец.**

Права асабістай бясьпечнасьці зусім ня істнуе для жыхароў Заходняй Беларусі. Паліцыя ўважае сябе за адзіную і незалежную ўладу, — арыштоўвае без аглядкі направа і налева, паводле свайго погляду, прычым за звычай „правіненьнем“ зьяўляецца сьвядомая прыналежнасьць да сялянска-работніцкай клясы або абарона нацыянальных інтарэсаў беларускай людносьці. Дзякуючы гэтаму, пратрымоўваюцца арыштаваныя цэлымі гадамі і месяцамі пад сьледзтвам, бо зьяўляецца труднасьць, каб знайсьці праўную падставу для абвінавачваньня арыштаванага.

Гэтакі выпадак, паміж іншым, меў месца год таму назад у Бельскім пав.

З в. Ківачына, Белавежскай гм., Бельскага пав. пішуць нам: у траўні мінулага году арыштавалі жыхарку вышэйпамянутай вёскі Вольгу Габец. Обыск, тры разы роблены ў яе памяшчэньні, ня даў ніякіх повадаў для арыштаваньня. Паміма гэтага дацяпер—гэта значыць, лічыць, ужо год трымаюць арыштаваную ў Беластоцкім вастрозе, прычым ня толькі не далі ёй акту абвінавачваньня, але навет з ходу зробленага сьледзтва ня можна заключыць, за што фактычна яе абвінавачваюць і якога „правіненьня“ паліцыя хоча дашукацца.

Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў Міністра Унутраных Спраў:

1) Ці склонны ён загадаць ураз-жа жорсткае сьледзтва ў гэтай справе і пацягнуць да карнай адказнасьці віноўных бяспраўнага арыштаваньня Вольгі Габец?

і п. Міністра Справядлівасьці?

1) Ці ўважае дапусьцімым, каб брак віны з боку арыштаванага апраўдываў пратрыманьне яго праз адзінаццаць месяцаў у вастрозе?

2) Ці склонны ён загадаць, каб ураз-жа звольнілі бяспраўна пратрымоўваную ў Беластоцкім вастрозе Вольгу Габец і пацягнулі да адказнасьці віноўных пратрымываньня яе?

Варшава, 30. III—26 г.

**Інтэрпэлянты.**

## Інтэрпэляцыя №. 51.

паслоў з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе катаваньня Слонімскай паліцыяй і загадачнага зьнікненьня Сымона Рамановіча.**

Землі Заходняй Беларусі зьяўляюцца аддаўна абшарам нячуванага тэрору.—Паліцыя — ўсяўладна і бяскарна—дапускаецца да дзікіх гвалтаў.

Вось яшчэ адзін факт, які сам за сябе гаворыць—і не патрабуе ніякіх паясьненьняў:

21 студзеня сёл. году арыштавалі ў в. Шылавіцы, Слонімскага пав. Сымона Рамановіча. — З пісьма разадчаянай маткі даведваемся мы, што арыштаванага Рамановіча адаслалі зпачатку ў Слонім, дзе яго дзіка білі і катавалі. Няпрытомнага з прычыны катаваньняў паліцыі ачучвалі такім чынам, што прыкладалі гарашчы папярос да рук і грудзёў абамлеўшага, а таксама абкладалі яго сьнегам.—Пасьля перавязьлі яго ў Баранавічы на новыя катаваньні. Пасьля йзноў перавязьлі арыштаванага ў Слонім, — дзе зноў яго нялюдзкім і дзікім спосабам катавалі.—А далей усялякія чуткі аб Рамановічу прапалі. Мацеры, якая хацела пабачыцца з сынам, паліцыя дае якіясьць выкрутныя адказы. На пабачаньні не пазваляюць і абяцаюць, што зараз арыштаваны будзе звольнены. Назначаюць мацеры і сям‘е розны срок, а ў канцы-канцоў сям‘я прышла да перакананьня, што Рамановіча ў Слоніме няма і думае, што катаваны паліцяй умёр з прычыны робленага ею „баданя“, а паліцыя хавае гэты факт прад сям‘ею і грамадзянствам.

Дзеля гэтага ніжэй падпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці ведае ён аб вышэй апісаным факце?

2) Ці маніцца загадаць ураз-жа жорсткае сьледзтва ў гэтай справе і паведаміць ніжэй падпісаных аб рэзультаце яго?

3) Ці склонны ён пацягнуць віноўных да судавай адказнасьці?

Варшава, 20 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя №. 52

паслоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да паноў Міністраў Унутр. Спраў і Справядлівасьці ў **справе катаваньня палітычнай паліцыяй у Пялрашы пад Беластокам Уладзімера Аземблы.**

Тэрор паліцыі ў адносінах да беларускай людкасьці трывае без перарыву. Весткі, даходзячыя з розных мясцовасьцяй Заходняй Беларусі, пацьвярджаюць, што ўсюды стасуецца наступная сыстэма: паліцыя арыштоўвае, перадае арыштаванаму напісаны ею пратакол і жадае падпісаньня, — у выпадку адмовы б‘е, катуе і дзіка зьдзекуецца датуль, пакуль арыштаваны за цану звальненьня ад катаваньняў не падпіша пратаколу паліцыі. Тады на падставе гэтага пратаколу садзяць арыштаванага ў вастрог.

З вастрогу ў Беластоку атрымалі мы наступнае пісьмо ад вязьня Уладзіміра Аземблы:

„23 верасьня 1925 году арыштавалі мяне і адаслалі ў экспазытуру палітычнай паліцыі ў мясцовасьці Пялрашы пад Беластокам. У часе распытваньня закінулі мне прыналежнасьць да якойсьці камуністычнай арганізацыі, аб якой зусім нічога ня ведаў. „Бадаў“ мяне сышчык, які біў мяне кулакамі па карку і бакох. Прозьвішча яго ня ведаю, але мог-бы яго пазнаць. На наступны дзень ізноў мяне „бадалі“ чатыры функцыянэры, — з якіх адзін належаў да мундзіровай паліцыі,—такім чынам:

Далі мне падпісаць якісьць пратакол. Я зажадаў, каб прачыталі,—мне адмовілі; паясьняючы, што „няма ў ім нічога важнага“. Я адмовіўся падпісаць. Тады пачалі біць мяне кіямі па плячох і бакох, пасьля зьнялі мне абуцьце, пасадзілі на падлогу, налажылі кайданы на рукі і згібы каленяў, пасьля паміж згібы локцяў і каленяў працягнулі мне кій. Быў я зусім абязуладнены. Тады палажылі мяне на падлогу плячыма і пачалі ўліваць ваду праз нос. Улілі пяць бутэлек, прычым адна была са сьпірытусам. I тут-жа білі мяне ботамі па плячох, выліваючы гэтакім спосабам воду назад. Катаваньне гэтае паўтарылі два разы. За другім разам патраціў я прытомнасьць. А калі ачуціўся, падпісаў пратакол, бо ня мог ужо зносіць далейшых мукаў. Са зьместам гэтага пратаколу не пазнаемілі мяне.

Аб гэтым падаў я скаргу пракурору і быў выслуханы падпракурорам Акружнога Суда ў Беластоку і сьледавацеля.

(—) Уладзімір Азембло.
Беласток, карны вастрог,
31 сакавіка 1926 г.

Падаючы гэтае да ведама паноў Міністраў, інтэрпэлянты пытаюцца:

п. Міністар Унутраных спраў:

1) Ці і які загад мае замер выдаць, каб палажыць канец правакатарскай практыцы і дзікім катаваньням, стасаваным паліцыяй да беларускай людкасьці?

2) Ці маніцца загадаць суровае сьледзтва, каб выясьніць прозьвішчы паліцэйскіх агэнтаў, якія катавалі Уладзіміра Азембло?

3) Ці віноўныя катаваньняў арыштаванага будуць звольнены з дзяржаўнай службы і пацягнуты да карнай адказнасьці?

і п. Міністар Справядлівасьці

Ці склонны ён выясьніць і данясьці інтэрпэлянтам, якія рэзультаты прынясло паведамленьне судова-пракурорскай улады аб гвалтах паліцыі над арыштаваным Уладзімірам Аземблам?

**Інтэрпэлянты.**

Варшава, 20 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя № 53

дэпутата Мятлы з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да паноў Міністраў Унутраных Спраў і Зямельных Рэформаў **у справе злоснага сабатажу войтам вёскі Талавец загадаў камісіі для зямельных спраў.**

Буржуазія склонна на прыманчывыя абяцанкі для працоўнай клясы тады, калі патрэбны ёй помач або вялікія ахвяры ад гэтай апошняй. Да гэтакіх „урадавых“ абяцанак адносіцца выстаўляны калісь буржуазнай клясай дэвіз: парцэляцыя, зямля для селяніна і г. д. Ухвалены Соймам уставы аб выкананьні зямельнай рэформы зьяўляюцца яшчэ адным пацьвярджэньнем таго, што шляхоцка-буржуазны ўрад ня хоча і ня здольны, каб правясьці напраўду зямельную рэформу і даць селяніну зямлю.

У тых рэдкіх выпадках, калі фактычна распарцэлёўваюцца невялікія абшары паміж сялянамі—кіруецца ўлада не патрэбай мясцовай беззямельнай і малазямельнай людкасьці, але палітычнымі мамэнтамі. Парцэляцыя на Беларускіх і Украінскіх землях мае мэтаю насаджваньне на гэтых землях польскіх асаднікаў, памінаючы мясцовую людкасьць. Гэтыя асаднікі маюць стацца аружжам да дэнацыяналізацыі беларусаў і ўкраінцаў. Адпаведная ўлада атрымоўвае выразныя інструкцыі, каб не дапускаць мясцовай людкасьці да ўдзелу ў парцэляцыі. Прыкладаў гэтакай палітыкі земскіх урадаў можна-б пералічыць вельмі многа, а вось яшчэ адзін новы:

У в. Талавіцы, Казлоўскай гм. Слонімскага пав. назначылі на парцэляцыю зямлю, належачую да таго часу да мясцовай управы. Мясцовыя сяляне, хочучы прыняць удзел у парцэляцыі зьвярнуліся да камісара зямельных спраў у Слоніме. Камісар запэўніў іх, што зямлю атрымаюць і патрэбаваў злажыць уставовыя дэклярацыі, пасьведчаныя гмінай. Сяляне тае-ж вёскі Пётра Ляпёткін і Пётра Кароль падалі войту дэклярацыі для подпісу, але тут спаткаў іх адказ. I вось аказалася, што ніякіх дэклярацыяў сяляне ня могуць падаць, бо войт рашуча адмаўляецца пасьведчваць. Болей двох месяцаў цягнецца ўжо гэтая гісторыя, сялян адсылаюць ад інстытуцыі да інстытуцыі,—камісар кажа, што войт абавязаны пацьвердзіць дэклярацыі, а войт аб‘ясьняецца тым, што няма адносных распараджэньняў улады аб гэтым і г. д. Ня ведама якія матывы гэтага злоснага сабатажу з боку войта: ці ён выконвае інструкцыі вышэйшай улады, ці кіруецца тут поглядамі іншай натуры, то знак-жа напэўны, — што на гэтакі паступак асьмельваецца ён толькі таму, што ён пераконаны, што тармозячы беларускім сялянам магчымасьць атрыманьня зямлі, ідзе па лініі палітыкі ўраду.

Дзеля гэтага інтэрпэлянты пытаюцца п. Міністра Зямельных Рэформаў:

Ці і які загад маніцца выдаць, каб засада надзяляньня зямлёю перадусім мясцовую людкасьць ня была сьвядома і злосна сабатована?

і п. Міністра Унутраных Спраў:

Ці маніцца загадаць сьледзтва ў гэтай справе і пацягнуць да адказнасьці войта з в. Талавіцы за злосны сабатаж?

Варшава, 20 красавіка 1926 г.

## Інтэрпэляцыя № 54.

дэпутата Сабалеўскага з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і тав. да п. Міністра Унутраных Спраў **у справе гвалтаў паліцыі над Казьмерам Былінкам, пражываючым у фальвароў Гэльд, Стаўпецкага пав.**

„Урадуючая“ на землях Заходняй Беларусі паліцыя да тае ступені выйшла з граніц, што самаволя і гвалты зрабіліся другой натурай,—папросту арганічнай неабходнасьцяй. Паліцыя б‘е ня толькі тады, калі правакацыяй прыгатоўвае матэр‘ял для палітычнага працэсу, калі вымушвае

